# ПРАЦАЎНІК АСЬВЕТЫ

Дадатак да газэты „САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ“

№ 14 | 25 лістапада 1928 г. | № 14

ЗЬМЕСТ.



ДА VIII УСЕБЕЛ. ЗЬЕЗДУ ПРАЦАСЬВЕТЫ.

## Пастаўленыя перад намі задачы вырашым.

Восьмы Зьезд працаўнікоў асьветы Беларусі зьбіраецца пасьля двух гадоў напружанае працы, якая праходзіла ў надзвычайна складаных умовах нашага гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, і пасьля году працы па вырашэньню пастаўленае рубам XV зьездам УсеКП(б) праблемы культурнае рэвалюцыі.

За гэтыя два гады асьветнікі пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі правялі вельмі вялікую працу па культурнаму абслугоўваньню працоўных мас як праз школы і палітасьветныя ўстановы, так і ў грамадзкай пазашкольнай працы,

У агульнай сваёй масе асьветнікі ўсё больш і больш уцягваюцца і выяўляюць ініцыятыву па актыўнаму ажыцьцяўленьню дырэктыў партыі ў культурным будаўніцтве. Усё больш і больш уцягваюцца ў грамадзка-карысную пазашкольную працу, уцягваюцца ў акаляючае жыцьцё, разумеючы, што без актыўнага ўдзелу ў акаляючым жыцьці немагчыма весьці сваю непасрэдную працу.

Усё гэта станоўча не гаворыць за тое, што мы ўжо можам не клапаціцца аб нашых далейшых задачах, што мы павінны абмежавацца дасягнутым. У нас яшчэ ёсьць шмат чаго ня зробленага, недаробленага, перад намі стаіць яшчэ шэраг надзвычайна важных, складаных задач, якія патрабуюць яшчэ большай энэргіі, адданасьці справе, сумленнасьці.

Галоўныя задачы, аб якіх зьезд павінен будзе сказаць сваё слова, наступныя:

Першая, гэта ліквідацыя няпісьменнасьці. тут намі зроблена вельмі і вельмі мала, між тым, як асьветнікі ў гэтай справе павінны быць галоўнымі ініцыятарамі, актыўнымі барацьбітамі па зьнішчэньню гэтае спадчыны царызму. Мы павінны зразумець, што бяз зьнішчэньня няпісьменнасьці немагчыма сур'ёзна гаварыць аб пасьпяховым вырашэньні праблемы культурнай рэвалюцыі.

На матар'ялах абсьледваньня, праведзенага РСІ, в тых спрэчак, якія вяліся на 2-ім зьезьдзе таварыства Прэч Няпісьменнасьць, выявілася, што намі, ня толькі, зразумелая рэч, асьветнікамі, у справе ліквідацыі няпісьменнасьці зусім мала зроблена, і перад намі гэта задача стаіць са ўсёю сваёю важнасьцю і вострасьцю. Асьветнікі ня могуць надалей адносіцца да пытаньня ліквідацыі няпісьменнасьці так, як гэта было да гэтага часу. Значная доля адказнасьці за пасьпяховасьць ліквідацыі няпісьменнасьці ляжыць на асьветніках.

Другая: інтэрнацыянальнае і антырэлігійнае выхаваньне ў школе, правядзеньне гэтае працы і ў іншых культасьветных установах. У нас тут ня ўсё яшчэ добра. Мы маем шмат выпадкаў нацыянальнае розьні паміж вучнямі розных нацыянальнасьцяў, у нас яшчэ ня ўсе асьветнікі зразумелі патрэбнасьць узмацніць справу інтэрнацыянальнага, клясавага выхаваньня і афармленьня пралетарскае ідэалёгіі ў вучняў; у часткі настаўнікаў яшчэ да гэтага часу ёсьць думка, што выхаваньнем у школе павінен займацца толькі выкладчык грамадазнаўства, астатніх гэта ня тычыцца. Між тым адказнасьць за выхаваньне ў школе павінна ўскладацца і ўскладаецца на ўсіх настаўнікаў. Наш клясавы вораг скарыстоўвае ўсе магчымасьці, каб пашкодзіць пасьпяховасьці нашага сацыялістычнага будаўніцтва, ён імкнецца ўносіць разлад сярод працоўных розных нацыянальнасьцяў. Сярод асьветніцкіх мас таксама яшчэ ня ўсё ўпарадку, у нас яшчэ дзе-ні-дзе заўважваюцца моманты інацыянальнае абмежаванасьці, нацыянальнае няпрыязьні. Са ўсяго гэтага вынікае, што праворганы, органы НКАсьветы і ўся асьветніцкая маса павінны рашуча ўзяцца за наладжваньне працы і ўзмацненьне ўвагі інтэрнацыянальнаму выхаваньню, прычым гэта праца не павінна абмяжоўвацца толькі школаю, а на абавязку кожнага асьветніка ляжыць правядзеньпе інтэрнацыянальнага выхаваньня, тлумачэньне нацпалітыкі сярод бацькоў вучняў і наогул працоўных мас, акаляючых школу, або тую ці іншую культурнаасьветную ўстанову.

Праца па антырэлігійным выхаваньні ў школе, антырэлігійная праца сярод саміх асьветнікаў і праца асьветнікаў сярод насельніцтва ў нас толькі, толькі пачынае варушыцца.

Да гэтага часу яшчэ няма тэго, каб уся штодзённая, школьная і культасьветная праца была прасякнута элемэнтамі антырэлігійнага выхаваньня, антырэлігійнае прапаганды, да гэтага часу нават праграмы нашых школ ня маюць яскравага антырэлігійнага адбітку, ня-

# Зьнішчым хібы леташняга году.

## Да кампаніі па пераўтварэньню калектыўных дагавораў

Практыка масавага ўтварэньня калдагавораў на працаўнікоў культасьветных установ дзяржаўнага і мясцовага каштарысу налічвае ўсяго адзін год. І калі падвесьці цяпер вынікі ўтварэньня і выкананьня існуючых калдагавораў, дык можна адзначыць, што ў асноўным калдагаворы сябе апраўдалі.

Некаторыя з нашых саюзных органаў, асабліва ў раёнах, кампанію па ўтварэньню калдагавораў у мінулым годзе правялі выключна габінэтным парадкам. Разасланы праэкт калдагавору абгаварылі на пасяджэньні раймясцкому і досыць. Дзякуючы гэтаму, асноўная маса асьветнікаў у такіх мясцох ніякага ўдзелу ў абгаварэньні праэктаў калдагавораў ня прымала. Былі і такія выпадкі, што праэкт калдагавору і вельмі актыўна абгаварваўся асьветніцкаю масаю ці на агульных сходах, ці па калектывах, ці на нарадах прафдэлегатаў. Кожны пункт праэкту калдагавору, кожная фармуліроўка тэй ці іншай прапановы абгаварвалася ўсебакова і выклікала гарачыя спрэчкі; даваўся цэлы наказ раймясцкому, чаго ён павінен дабіцца ад адміністрацыі пры ўтварэньні калдагавору. Але-ж усё гэта заставалася толькі добрымі пажаданьнямі. Раймясцком дагаварваўся з адміністрацыяй, уносіў ад сябе, прымаў і згаджаўся на розныя зьмены ў праэкце калдагавору, падпісваў яго і на гэтым справа канчалася. А пазнаёміць асьветніцкую масу, чаму ня прынят ці зьменен той ці іншы пункт праэкту калдагавору, раймясцком і забываўся, і вынікам гэтага было тое, што маса асьветнікаў заставалася незадаволенай і ўся прароблена праца па правядзеньню калдагаворнае кампаніі была, як кажуць, «упустую».

І з боку адміністрацыі назіраліся выпадкі няўважлівых адносін да гэтай справы, ня гледзячы на цэлы шэраг дырэктыў адпаведных органаў па гэтым пытаньні. Назіраліся выпадкі наўмыснага зацягваньня падпісаньня калдагавору пад рознымі прычынамі: тут табе—няма яшчэ каштарысу, няма канкрэтных дырэктыў, імкненьне ўнесьці ў калдагавор пункты, якія супярэчаць існуючаму законадаўству; быў і такі выпадак, што райвыканком спрачаўся з раймясцкомам аб «месьніцтве»—хто з кім утварае калдагавор: раймясцком з райвыканкомам, ці райвыканком з раймясцкомам і з-за гэтага «месьніцтва» калдагавор не падпісваўся месяцамі.

Падводзячы-ж вынікі выкананьня існуючых калдагавораў, таксама трэба адзначыць цэлы шэраг недахопаў, якія ёсьць як па віне адміністрацыі, так і па віне некаторых саюзных органаў. Больш усяго парушаліся пункты калдагавору: нявыплата наперад пэнсіі працаўнікам, якія ідуць у чарговы адпачынак, і наогул несваечасовая выплата пэнсіі; нявыплата кватэрных згодна калдагавору, спэцвопраткі; парушэньне прававога становішча асьветніка—неабгрунтаваныя пераводы, звальненьні.

А саюзныя органы ў такіх выпадках не заўсёды сваечасова прымалі меры да зьнішчэньня гэтых недахопаў. Часта назіраліся пасыўныя адносіны саюзнага органу да тых парушэньняў калдагавору, якія рабіла адміністрацыя, хоць пры жаданьні шмат якія парушэньні калдагавору можна было-б не дапусьціць ці сваечасова іх зьнішчыць.

ЦП саюзу ўжо больш двух месяцаў таму назад дало дырэктывы праверыць на мясцох выкананьне калдагавораў пры ўдзеле ўсёй асьветніцкай масы. Гэта кампанія таксама да гэтага часу яшчэ не закончана. Некаторыя саюзныя органы яшчэ зусім не распачыналі правядзеньня гэтай працы, а іншыя правялі яе габінэтным парадкам бяз удзелу асьветніцкай масы.

І вынікам такіх адносін саюзных органаў зьяўляецца тое, што ў некаторых мясцох у вачох асьветніцкай масы як сама кампанія па ўтварэньню калдагавору, так і самі ўтвораныя калдагаворы дыскрэдытуюцца.

Цяпер мы прыступаем да правядзеньня кампаніі па пераўтварэньню існуючых калдагавораў. Кожны саюзны орган павінен улічыць памылкі мінулага, павінен зараз-жа, неадкладна, пры ўдзеле асьветніцкай масы падвесьці вынікі выкананьня існуючых калдагавораў, дзе гэта яшчэ ня зроблена; заўважаныя недахопы ўлічыць пры абгаварэньні і ўтварэньні новага калдагавору, прыцягнуць да гэтай кампані ўвагу ўсёй асьветніцкай масы.

Уся кампанія па пераўтварэньню калдагавораў павінна быць закончана да 1-га студзеня 29 г., аб чым ужо маюцца пастановы адпаведных органаў.

М.

---

ма таксама сыстэматычнае, плянавае працы па гэтым важным пытаньні нашых прафэсыянальных органаў, дамоў і кутлоў асьветы. Між тым у нас маецца шмат прыкрых здарэньняў на гэтай глебе, мы да гэтага часу ў рэлігійныя сьвяты маем масавае ненаведваньне вучнямі школ, у нас ёсьць яшчэ паасобныя настаўнікі, якія ходзяць у царкву, сьвяткуюць рэлігійныя сьвяты і г. д., і як галоўнае, з чым трэба весьці барацьбу, гэта думка значнае часткі асьветнікаў, што ў школе павінна быць безрэлігійнае выхаваньне, г. з. нэўтралітэт да рэлігіі (рэлігія не чапае школы—школа не чапае рэлігіі).

Трэцяя задача—гэта разгортваньне крытыкі і самакрытыкі па культурнаму будаўніцтву. Калі крытыка і самакрытыка шырока разгорнута па гаспадарчаму будаўніцтву, па працы саветаў, каапэрацыі, дык у справе культурнага будаўніцтва, асабліва па працы ў школе ўсіх тыпаў, палітасьветных установ, мы яшчэ амаль зусім не ўцягнулі ў крытыку ня толькі шырокае савецкае грамадзкасьці, але нават і тых працаўнікоў, якія непасрэдна вядуць гэту працу. Між тым, у працы нашых школ ёсьць шмат недарэчнасьцяў, якія маглі-б быць зьнішчаны, каб самі працаўнікі школ і наогул працоўныя масы актыўна, у парадку крытыкі, рэагавалі на гэтыя недарэчнасьці.

Вось тыя асноўныя моманты і задачы, якія зараз перад намі стаяць і за вырашэньне якіх уся асьветніцкая маса павінна будзе ўзяцца са ўсёю рашучасьцю.

Мы тут ня спыняемся на такіх ня менш важных момантах працы саюзу працаўнікоў асьветы, як палітычная і вытворчая падрыхтоўка і самападрыхтоўка асьветнікаў, удзел у грамадзкай пазашкольнай працы, асабліва ў надыходзячай кампаніі перавыбараў саветаў, удзел у эканомпрацы, падняцьце вытворчае дысцыпліны, масавая праца саюзных органаў, прававое і матар'яльнае становішча асьветнікаў і г. д. Усе гэтыя задачы таксама патрабуюць ад прафорганаў, органаў НКА і ўсяе асьветніцкае масы вялікае ўвагі і штодзённае напружанае працы.

За два гады працы на культурным фронце, пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі, асьветнікі ўзмацнілі свае шэрагі як колькасна, так і якасна.

Восьмы зьезд саюзу падагуліць як станоўчыя, гэтак і адмоўныя бакі нашае працы і дасьць належныя дырэктывы дзеля далейшага пасьпяховага выкананьня пастаўленых перад намі камуністычнай партыяй задач.

Гэтыя задачы мы выканаем.

А. Платун.

# За прафграмату асьветніка.

За апошнія два-тры гады прафэсыйная сьвядомасьць і пісьменнасьць значна ўзрасла сярод асьветніцкіх мас. Ліквідацыя прафэсыйнай няпісьменнасьці праходзіла ў асноўным у працэсе самога саюзнага жыцьця, шляхам дакладаў праворганаў на масавых сходах, удзелу членаў саюзу ў практычнай саюзнай працы, прапрацоўкі саюзных пытаньняў на нарадах, у гуртках і г. д.

У мінулым годзе ў нашай арганізацыі саюзу існавала адна прафэсыйная школа і 301 гурток. Школаю і гурткамі было ахоплена 298 членаў саюзу—лічба не асабліва вялікая ў параўнаньні з агульным лікам членаў саюзу, якіх налічваецца 25.000 чалавек.

Ці маецца ў нас усё-ж прафэсыйная няпісьменнасьць? Зразумела, маецца. Мы мелі шраг выпадкаў, калі члены саюзу падавалі заявы ў ЦП саюзу і пісалі: «У саюз Народнага Камісарыяту Асьветы», «цэнтральны саюз працасьветы» і г. д. Заўважваецца, што члены саюзу ня ведаюць статуту саюза, ня ведаюць структуры праворганаў, парадку абароны свайго праўнага становішча і г. д. Усё гэта сьведчыць аб тым, што на справу прафпісьменнасьці членаў саюзу і ў першую чаргу на падвышэньне кваліфікацыі саюзнага актыву неабходна зьвярнуць належную ўвагу ўсім праворганам.

У практыцы саюзнай працы звычайна прафасьвета займала амаль што апошняе месца, цяпер паўстае пытаньне аб большай увазе гэтай галіне працы.

Зразумела, што спэцыяльных прафшкол нам утварыць ня ўдасца па цэлым шэрагу прычын. Трэба шукаць іншыя мерапрыемствы дзеля ахопу імі асьветніцкай масы. Такімі асноўнымі мерапрыемствамі зьяўляецца: уключэньне цыклю саюзных пытаньняў у праграму працы гурткоў на вёсцы, утварэньне спэцыяльных прафкурсаў у гарадох пры Дамох Асьветы, уключэньне ў праграмы пэдтэхнікумаў пытаньняў прафруху.

Якім-жа матар'ялам карыстацца ў гуртках, на прафкурсах, дзеля падняцьця прафсаюзнай асьветы членаў саюзу? Да апошняга часу, праўду кажучы, мы ня мелі сыстэматызаваных праграм, адпаведнага падручніка, каб можна было па ім за кароткі тэрмін азнаёміць саюзную масу з галоўнымі пытаньнямі міжнароднага прафруху, станам і працаю нашых саюзных арганізацый. У сучасны момант у гэтым напрамку мы маем надзвычайна карыснае мерапрыемства культаддзелу ЦК саюзу—гэта выданьне завочных прафкурсаў. Завочныя прафкурсы пабудаваны на наступных чатырох цыклях: міжнародны пастаўніцкі рух, нізавая культпраца, мясцком і яго праца, працоўнае права асьветніка.

Усе прафарганізацыі—акр. аддзяленьні саюзу РМК, групкомы і МК павінны паклапаціцца, каб забясьпечыць па магчымасьці ўсе гурткі і курсы завочнымі прафкурсамі, якія заменяць сабою праграмы і падручнікі ў галіне падняцьця прафэсыйнай пісьменнасьці асьветніка

**Яз. Мацюкевіч.**

# Цяжка працаваць ня ўмеючы.

Калі ня мыляемся, дык за паўгода першы агульны сход настаўніцтва Петрыкаўскага раёну адбыўся праз некаторы час пасьля акруговай канфэрэнцыі саюзу.

І як гэта ня дзіўна, на раённы сход з 50 асьветнікаў сабралася ўсяго... каля 20 чалавек.

А 9 й гадзіне адчыняецца сход і прыступаюць да дзелавой працы

— Першае пытаньне ў нас даклад аб акруговай канфэрэнцыі,—паведамляе старшыня сходу, ён-жа старшыня мясцкому т. Мінковіч.

Насьцеражылася настаўніцтва. Сапраўды, цікава паслухаць, што новага у прафсаюзнай і асьветнай працы.

Выходзіць таварыш дакладчык і як пайшоў, дык проста не затрымаеш...

— Справаздача ЦП саюзу была вельмі цікавая, але... Я нічога не запісаў...Былі яшчэ даклады, але я ўжо мала памятаю аб чым у іх гаварылася...

Адным словам, нагаварыў дакладчык, як кажуць, з пятага на дзесятае.

Скончыўся даклад... Ні пытаньняў, ні спрэчак, ды і цяжка было спрачацца—нічога не пачуўшы.

— Прапаную даклад прыняць да ведама, уносіць прапанову дакладчык...

Прынялі...

Далей абвяшчаюцца выбары бюро ячэйкі «Прэч няпісьменнасьць».

Ну, таварышы, мы людзі пісьменныя, гаварыць аб гэтай справе няма чаго. Трэба абраць... Згодны?

— Згодны...

Абіраецца бюро.

— Даручыць ім напісаць усім прысутнічаючым білеты...

— Даручыць...

Атрымоўвае слова т. Буракоў аб арганізацыі ячэйкі ТДА-Авіяхіму.

— Я, таварышы, таксама шмат гаварыць ня буду, а трэба арганізаваць ячэйку, а там каманда будзе... Згодны?

— Згодны...

— У бюро абраць таварышоў... Згодны?

— Згодны...

І так аж да канца сходу.

— Эх, цяжка працаваць у мясцкоме,—скардзіўся сваёй жонцы пасьля сходу старшыня мясцкому т. Мінковіч. —Няма,—кажа, у настаўнікаў аніякай актыўнасьці. Ледзь 20 чалавек на сход сабраліся. А сабраліся, дык больш у «молчанку» гуляюць...

Сапраўды, трэба яшчэ дзівіцца, што на гэты сход прышло і 20 чалавек.

**В. Зайцаў.**

# Суботнік на карысьць школы.

З няменшым посьпехам правяла суботнік і **Зембінская ячэйка ЛКСМБ.** Суботнік даў 87 руб. 50 кап., з іх палова перададзена школе, а рэшта пакінута на рамонт гучнагаварыцеля. Ідзе падрыхтоўка да суботніка для рамонту хаты-чытальні.

**Камсамольцы Неманіцкай ячэйкі** дагаварыліся з сялянамі правесьці суботнік на карысьць мясцовай школы. Лясьніцтва дае працу для суботніка, які дасьць 67 руб. Ня так даўно камсамольцы разам з сялянамі правялі суботнік, у які зарабілі 165 руб. Гэтыя грошы пойдуць на ўстаноўку радыё-прыёмніка.

**Ячэйка ЛКСМБ саўгасу Палелюм (Барыс. р.)** вядзе падрыхтоўчую працу да адчыненьня школы батрацкай моладзі. У школу ўжо запісалася 22 чалавекі. Саюз працаўнікоў зямлі і лесу адпусьціў на школу 100 руб., а рэшта сродкаў будзе сабрана праз суботнікі

## КАМСАМОЛЬСКІ СУБОТНІК У МЕНСКУ.

Камсамольскія ячэйкі Менску ўжо распачалі на прадпрыёмствах праводзіць суботнікі на карысьць школы; праводзяцца суботнікі і на грамадзкіх работах.

21 лістапада адбылася нарада загадчыкаў гарадзкіх школ. Вырашана правесьці шырокую растлумачальную кампанію аб суботніку. На бацькаўскіх сходах таксама будуць ставіцца пытаньні аб суботніку і аб спэцыяльных адлічэньнях на карысьць школы. Вучні старэйшых клясаў будуць удзельнічаць у суботніку сумесна з камсамольскімі ячэйкамі.

# Пра перападрыхтоўку настаўніцтва.

Зараз-жа пасьля Кастрычнікавай рэвалюцыі перад савецкаю школаю паўсталі новыя задачы, з якімі настаўніку старае школы цяжка было спраўляцца, патрэбна была грунтоўная перападрыхтоўка. Сталі ўтварацца курсы, канфэрэнцыі, гурткі самаадукацыі. Большасьць настаўніцтва, якая прыхільна сустрэла новую школу, з захапленьнем узялася за сваю перакваліфікацыю і за пабудову новае школы.

Праца гэта не аслабла і да гэтага часу. Мы ўжо маем значныя дасягненьні як у справе перакваліфікацыі настаўніцтва, гэтак і ў справе пабудовы савецкае школы. Аднак у гэтым напрамку яшчэ засталося шмат працы. Школьная сетка хутка расьце, пэдтэхнікумы не спраўляюцца даваць патрэбную колькасьць настаўнікаў, і з кожным годам у шэрагі настаўнікаў уліваецца шмат асоб без належнай ня толькі пэдагагічнай, але і агульнай асьветы. Тут ёсьць і былыя настаўнікі, пакінуўшыя школу ў цяжкія гады разрухі, ёсьць і скончыўшыя навучальныя ўстановы ў першыя гады пасьля рэвалюцыі. Як тыя, гэтак і другія ня могуць лічыцца сталымі настаўнікамі новае працоўнае школы.

Да такога вываду прывялі мяне назіраньні на працягу пяці год за працай настаўніцкіх курсаў перападрыхтоўкі ў вадвэй з акруг Беларусі. Пры гэтых курсах на працягу трох апошніх год утваралася, так званая, сэкцыя для падрыхтоўкі новых настаўнікаў. На гэту сэкцыю залічаліся ў першую чаргу былыя настаўнікі, якія па тых ці іншых прычынах у апошнія гады ў школе не працавалі, і ў другую — скончыўшыя 2-ую ступень і агульна адукацыйныя курсы. У гэтым годзе на сэкцыю было пададзена 70 заяў, залічыць трэба было 35. Дзеля таго, каб выявіць больш падрыхтаваных, дадзены былі дзьве пісьмовыя працы — па мове і матэматыцы. З 70 чалавек правільна разьвязала задачу 3 чалавекі. Астатнія забыліся дзеяньне з дробамі і вылічэньне процантаў. Праца па мове большасьцю была напісана так, як пішуць вучні 3 групы пачатковае школы. Ня гледзячы на гэта, 35 асоб было залічана на курсы, і зараз яны амаль што ўсе ўжо працуюць у школах. Іх прышлося пасылаць на працу, бо ня было лепш падрыхтаваных. Зразумела, што гэтыя настаўнікі не адпавядаюць свайму прызначэньню, ім патрэбна зьвярнуць самую пільную ўвагу на сваю перападрыхтоўку.

Як-жа зараз абстаіць справа перападрыхтоўкі настаўнікаў? Зараз існуюць такія формы перападрыхтоўкі: гурткі самаадукацыі, канфэрэнцыі і 6-цітыднёвыя курсы. Самаю асноўнаю формаю трэба лічыць гурткі самаадукацыі, як форму пастаяннай систэматычнай працы. Але практыка паказала, што гэтыя гурткі давалі вельмі мала. Звычайна настаўнікі зьбіраюцца на гэтыя гурткі два разы ў месяц. Скончыўшы заняткі ў школе, настаўнік ідзе за 6-7 вёрст на гурток. Наступае вечар, вяртацца дамоў уначы боязна, да таго-ж звычайна ня ўсе сябры гуртка зьбіраюцца, працаваць няма калі; трохі пагутарылі, пакурылі, ды і да хаты. Так звычайна адбываецца праца ў гуртках. Лепш паставіць яе ў сучасных умовах нельга, бо ня можа настаўнік пасьля 4-5 гадзін працы ў школе, прайшоўшы 5-7 вёрст, заняцца прадукцыйна новаю працай.

Канфэрэнцыі даюць таксама мала. Яны зьбіраюцца раз у два-тры месяцы на 2-3 дні. На канфэрэнцыі звычайна абгаварваюцца бягучыя пытаньні, якія цікавяць настаўніцтва, але бяда ў тым, што ў часе канфэрэнцыі настаўніцтва звычайна жыве ў дрэнных умовах. На канфэрэнцыю і назад прыходзіцца хадзіць пехатой, ня гледзячы на пагоду і дарогу, часта за 25-30 вёрст. У раённым асяродку, дзе канфэрэнцыі адбываюцца, начаваць няма дзе, пакарміцца цёплаю стравою гэтаксама. Няма нічога дзіўнага, што канфэрэнцыя выклікае некаторую зацікаўленасьць толькі ў першы дзень, а далей настаўніцтва пачынае сьпяшацца да хаты, пытаньні комкаюцца, ня цікавячы ўдзельнікаў.

Акруговыя курсы маюць на ўвазе больш-менш грунтоўную перападрыхтоўку настаўнікаў, але не даюць яе па наступных прычынах: праграма курсаў разьлічваецца на 7-8 гадзін штодзённай абавязковай працы, пры ўдзеле кіраўнікоў-лектароў, апрача гэтага курсантам прыходзіцца яшчэ гадзіны 3-4 працаваць самастойна, індывідуальна, або ў гуртках. На курсы настаўнікі зьяўляюцца стомленымі за час зімовай працы ў школе, ім патрэбен адпачынак, а замест гэтага ім прыпадае 10-11 гадзін напружанай працы. Зразумела, што вынікі курсаў няважныя. Недарма зараз настаўнікі без асаблівае ахвоты едуць на летнія курсы, і, калі можна, дык стараюцца іх ухіліцца.

Якое-ж выйсьце са становішча? Бясспрэчна, што далейшае ўзьняцьцё кваліфікацыі настаўніцтва вельмі патрэбна. Неабходна завесьці такі парадак, каб настаўнік меў магчымасьць пастаянна падвышаць сваю кваліфікацыю, каб у яго была сталая праграма, былі належныя падсобнікі. Каб гэтага дасягнуць, неабходна вызначыць на самаадукацыйную працу асобныя, вольныя ад школьных заняткаў, дні. У гэтыя дні настаўнікі абавязкова зьбіраюцца на гурткі і вядуць працу па пэўнай праграме і пляну. Гурткі павінны падагульваць працу, разьбіраць спрэчныя пытаньні, сама-ж праца павінна весьціся кожным настаўнікам індывідуальна, дома. Гурткі толькі сумуюць ужо апрацаваны індывідуальна матар'ял і намячаюць плян далейшай працы да наступнага сходу гуртка.

На раённых канфэрэнцыях ставіцца даклад аднаго-двух гурткоў аб праробленай працы, аб перашкодах і дасягненьнях у гэтай працы, робіцца абмен вопытам.

Акруговыя курсы рэарганізуюцца ў адна-двух тыдзёвую канфэрэнцыю, на якую выклікаюцца прадстаўнікі гурткоў. На канфэрэнцыі падводзяцца вынікі гадавой працы і складаюцца праграмы для наступнага году. Рэшта грошай, якія адпускаюцца на курсы перападрыхтоўкі, павінны ісьці на літаратуру для настаўнікаў. Выдаткі на курсы ня толькі не павінны быць скарочаны, але наадварот, павялічаны да 10 руб. на кожнага настаўніка ў год.

Шкадаваць 2-3 дні ў месяц дзеля перакваліфікацыі настаўніка ня варта, бо сталы падрыхтаваны настаўнік у 5 дзён дасьць школе шмат больш, чым непадрыхтаваны ў 6.

**А. Бараноўскі.**

*Ворша.*

## Дадатковае разьмеркаваньне стыпэндый.

Наркамасьветы разьмеркаваў дадаткова 146 стыпэндый для студэнтаў Б. Д. У. і тэхнікумаў. З агульнага ліку адпушчана 32 стыпэндыі для студэнтаў БДУ., а рэшта для ўсіх тэхнікумаў Беларусі.

**Дадзена дырэктыва ў першую чаргу задавальняць стыпэндыямі студэнтаў першага курсу. Побач з гэтым катэгарычна забаронена драбленьне стыпэндый на першым курсе.**

# Стыхія вуліцы робіць наступ на школу

Гаварыць ня прыходзіцца аб тэй вялікай ролі, якую адыгрывае савецкая школа ў справе выхаваньня моладзі, у справе падрыхтоўкі новага савецкага пакаленьня. У гэтым напрамку школа робіць і зрабіла ўсё магчымае.

Але абыйсьці моўчкі чорную бытавую стыхію мяшчанскае вуліцы, стыхію Камароўкі, Ляхаўкі, Пярэсыпы і іншых акраін нашага гораду—нельга таму, што яны становяцца папярок дарогі ў выхаваўчай працы школы, шкодзяць ёй сваім уплывам у штодзённым жыцьці, а ў апошнія часы, агідным уздымам, налётам на школу, паралізуюць і разбураюць школьную працу, парушаюць нармальнае жыцьцё яе.

Пытаньне ня новае і ўзьнікаецца яно зноў толькі таму, што за час сьвяткаваньня 11-цігодзьдзя Кастрычнікавае рэвалюцыі шэраг агідных здарэньняў злосьнага зрыву творчае працы школы хваляю пранеслася па менскіх школах, чым лішні раз падкрэсьлена, што гэта зьявішча моўчкі абыходзіць нельга.

Рабіць падрабязны агляд таго, дзе і што здарылася за час сьвяткаваньня Кастрычніка, непатрэбна, бо зьявішчы і здарэньні падобны адно да другога, ня гледзячы на тое, што дзеі адбываліся ў розных канцох гораду і ў розныя дні. Дзеля прыкладу возьмем адну школу № 5.

Вечар, прысьвечаны сьвяткаваньню 11-цігодзьдзя вялікага Кастрычніка, быў прызначаны на 7 гадзін вечара 8 лістапада, у памяшканьні школы, Ленінская 21.

Вучні, фарпост і настаўніцтва шмат напрацавалі дзеля правядзеньня належным чынам такога пралетарскага сьвята. Драмгурток падрыхтаваў п'есу «Арест» — Неўстроевай, дзе яскрава высьвятляецца якім, і ў якіх умовах праводзілася першая праца рэвалюцыйнай барацьбы. Вучні па ўласнаму пачыну сабралі сродкі і нанялі дзеля большага эфэкту ўрачыстасьці сьвята духавы аркестр музыкі. Сабруючая са школаю ячэйка ЛКСМ палітэхнікуму зрабіла выступленьне струннага хору палітэхнікумаўцаў лікам 30 асоб. Уласны хор таксама падрыхтаваў шэраг сьпеваў, прысьвечаных вялікаму сьвяту. Кіраўнік фізвыху не адстаў, падрыхтаваўшы шэраг нумароў як фізкультуры, так і рытмічных танцаў, і было зроблена шмат іншага.

Вучнёўскі выканком самакіраўніцтва раздаў вучням білеты на вечар для іх бацькоў. Дзеля кантролю ўваходу на вечар паставілі дваіх лепшых тэхпрацаўнікоў, заплаціўшы абодвым за гэтую працу. Адным словам, як кажуць, усё падрыхтована і прадугледжана на ўсе сто процантаў, і вечар дасьць маральнае і эстэтычнае задаволеньне і прысутным і ўдзельнікам.

У пачатку ўсё ішло як сьлед. Вучні і бацькі прыходзілі ў школу, распраналіся, вучні старэйшых клясаў рассаджвалі прыходзячых у залі на месцы. Прадстаўнікі сяброўскае камсамольскае ячэйкі палітэхнікуму, былыя вучні школы, наладзілі агульныя сьпевы з вучнямі ў залі. Словам, парадак абразцовы кругом.

Усё было-б надзвычайна добра, каб ня дзікі наскок на будынак школы «жыхароў» акраіны гораду і некаторай часткі, праўда, нязвычайнай, слухачоў 1-х аг.-адук. курсаў, якія і сапсавалі сьвята. Адны з іх аказаліся з білетамі (якім чынам яны апынуліся ў іх—нікому невядома), другія бяз усякіх білетаў пачалі ламацца ў дзьверы школы, пачалі ламаць і крышыць каменьнямі і палкамі вокны ў уборных і лезьці праз іх у памяшканьне школы. Трох загадчыку школы ўдалося накіраваць у 1-ае аддзял. міліцыі, а астатнія да нельга запрудзілі залю і вялікія калідоры школы. Шум, гам, сьвіст, лаянка пачалі чарадавацца паміж сабою, а каля 12-ці гадзін пачала выразна намячацца і бойка. Надзвычайных патугаў вымагалася ад адміністрацыі школы і настаўніцтва, каб стрымаць дзікую стыхію вуліцы і даць магчымасьць скончыць праграму ў яе мастацкай частцы.

Пагрозы пачалі сыпацца ў адрас адміністрацыі і настаўніцтва, а вучні, як рудыя мышы, пачалі туляцца па кутках, каб ня стаць аб'ектам хуліганскае ўвагі вуліцы. Каб пазбавіцца ад вялікага скандалу, заг. школы загадзя апавясьціў, што гульняў ніякіх ня будзе, і вучням малодшых груп за прапанавана накіравацца за вопраткаю.

Звыш гадзіны прышлося выправажваць няпрошаных гасьцей з памяшканьня школы, а па Ленінскай, каля школы, да часу ночы можна было чуць досыць дзікі сьвіст і лаянку, якімі выражалася незадавальненьне прышлага элемэнту за тое, што разгарнуцца як сьлелед ня прышлося.

Вулічная арда пакінула па сабе сьлед і ў памяшканьні школы. Калідорныя ўсходкі з другога паверху на першы аказаліся замочанымі і загаджанымі, падлога на калідоры была закідана акуркамі, агрызкамі яблык, семячкамі і папераю і старанна заплёвана. Адным словам памяшканьне аказалася нібы пасьля налёту на яго гунаў.

Такія налёты адбыліся амаль па ўсіх школах гораду Менску. З 1-х аг. адук. курсаў накіравана ў міліцыю звыш дзесяці асоб. У 15 школе, калі дзеля падтрыманьня парадку была выклікана міліцыя, героі вуліцы праз вокны з другога і трэцяга паверху паспускаліся па вадасточнай трубе на вуліцу. За далейшым падмацаваньнем фактамі хадзіць далёка непатрэбна—варта ўзяць любую школу, якая рабіла вечар, і ўбачым, што без гастралёраў не абышлося.

Павальнае, стаўшае хранічным, зьявішча сыстэматычнага зрыву разнузданай „публікай" вечароў нашых школ павінна быць зьведзена да мінімума, калі адразу нельга зьнішчыць гэтага зьявішча канчаткова.

Органы, назіраючыя за правапарадкам, павінны ўжыць належныя меры па забесьпячэньню школе вольнае працы. Хуліганствуючае мяшчанства павінна несьці заслужаную кару.

На акраінах гораду, дзе мяшчанства разам з хуліганствам (ва ўсіх яго відах родзіцца, расьце, квітнее і пачынае буяць, патрэбна заснаваць хатычытальні з належным абсталяваньнем і дапаможнікамі, адчыніць клюбы і павесьці выхаваўчую культурную працу па перавыхаваньню і па зьнішчэньню някультурнасьці, а таксама абавязкова пашырыць сетку школ дарослых моладзі.

Толькі хаты - чытальні, клюбы і школы і наогул разумныя занятки змогуць правесьці перапрацоўку ідэалёгіі гарадзкое акраіны.

ЦСПСБ і розныя прафсаюзныя аб'яднаньні, асабліва тыя прадпрыёмствы, якія раскіданы па акраінах гораду, павінны зьвярнуць на культпрацу на акраінах належную ўвагу і даць грашовыя сродкі.

Мяшчанства павінна страціць зьвярыны выгляд і набыць чалавечы, бо ў іншым выпадку культурная прадукцыйная праца нармальнае школы ня будзе мець посьпеху і прымушана будзе таптацца на месцы. Пытаньне сур'ёзнае і адкладу чакаць ня можа, ды і нельга яго абыйсьці ў часе культпаходу.

І. Масюкевіч.

